*Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб не ўмёрлі!*
*ФРАНЦІШАК БАГУШЭВІЧ*



# Наша слова




Газета выходзіць з сакавіка 1990 года № 38 (673) 29 ВЕРАСНЯ 2004 г.

# Беларускія барды ад мовы не адступаюцца

**29 верасня ў 18.30 у сталічным Доме літаратара адбудзецца вечарына беларускай бардаўскай песні, прымеркаваная да 15-годдзя ТБМ. Мы прапануем нашым чытачам біяграфічна-творчыя характарыстыкі некаторых яе ўдзельнікаў.**

**Лера Сом (Сом Алена Уладзіміраўна)** нарадзілася ў 1966 годзе ў Полацку.

Скончыла мастацка-графічны факультэт Віцебскага педінстытута.

З 1989 года працуе настаўнікам у СШ № 5 г.Полацка

У 1999 годзе скончыла завочнае аддзяленне філалагічнага факультэта БДУ

Сябра Саюзу беларускіх пісьменнікаў

Сябра ПЭН-клуба

Сябра Беларускай асацыяцыі журналістаў

Старшыня Полацкай гарадской арганізацыі ТБМ

Старшыня найстарэйшага ў Полацку літаратурнага аб'яднання "Наддзвіне"(заснавана ў 1926 годзе)

Аўтар кніг "Блюз Каралеўскае Кухні"(1994), "Адзінокая зорка"(1996), "Там, на небе"(2000).

Бард (альбом "Genius loci", 2000.)





**Эдуард Акулін** нарадзіўся 7 студзеня 1963 года ў вёсцы Вялікія Нямкі на Гомельшчыне. Скончыў Гомельскі дзяржаўны універсітэт імя Ф. Скарыны і аспірантуру АН Беларусі. Працаваў настаўнікам, загадчыкам філіі Літмузея М. Багдановіча "Беларуская хатка", намеснікам галоўнага рэдактара часопіса "Першацвет", рэдактарам аддзела паэзіі часопіса "Полымя". Цярер - намеснік галоўнага рэдактара часопіса "Дзеяслоў", а таксама намеснік старшыні Саюза беларускіх пісьменнікаў.

Аўтар кніг паэзіі: "Пяшчота ліўня", Крыло анёла", "Радно", драматычнай містэрыі "На Каляды" і двух песенных магнітаальбомаў: "Мая крывія" і "Як яна і я".

Лаўрэат другой прэміі 1-га ўсебеларускага фестывалю бардаўскай песні (1993 г.)



У кожнага выканаўцы шлях да беларускай песні складваецца па-свойму. Вось ужо чвэрць стагоддзя выходзяць на сцэну з бардаўскай песняй **Галіна і Барыс Вайханскія**. Іхнія песні гучаць з грампласцінак, магнітафонных стужак і кампакт-дыскаў. На жаль, да нядаўняга часу — амаль усе на рускай мове.

І вось, нарэшце, час прыйшоў. Вайханскія заспявалі па-беларуску, хораша і нязмушана. Да гэтай падзеі яны ішлі доўгія гады, калі не сказаць — усё жыццё... Галіна і Барыс штогод бываюць з канцэртамі ў Нямеччыне. Нямецкая паэзія, якая займае пэўнае месца ў творчасці, загучала цяпер і на беларускай мове.

**Кася Камоцкая** — гісторык па адукацыі. Яна пачала спяваць прафесійна яшчэ студэнткай. Спачатку — бардаўскія песні пад гітару. Крыху пазней, энергічная і прадпрымальная, яна пачала збіраць сваю музычную каманду. Так у 19991 годзе разам з Лявонам Шырыным стварыла гурт "Новае неба", які пачынае іграць электрычны рок. У запісу першага альбому "Дзеці чорнага гораду" актыўны ўдзел прымалі ўдзельнікі гурта "Мроя", якія і фармавалі стылістыку "Новага неба" на працягу шасці год. Як гаворыць Кася Камоцкая, салістка гурту, пры стварэнні песень для яе вялізную ролю мае тэкст. Для "Новага неба" пішуць прадстаўнікі "новай беларускай фармацыі"— Адам Глобус, Анатоль Сыс, Тацяна Сапач, Міхал Анемпадзістаў, Лявон Вольскі. Наступны арыгінальны альбом "Мая краіна", які выйшаў у 1996 годзе падмацаваў папулярнасць "Новага неба". Шматлікія выступы перад шырокай публікай зрабілі гурт адным з самых адметных рок-праектаў Беларусі. Пошук новага гучання цягам гадоў меў станоўчы вынік — выхад у кастрычніку 1999 года новага CD НН "Cepieliny".

Дыскаграфія:

1991. "Дзеці чорнага гораду", MC 12 tks., (p) "Ковчег"

1994. "Сон у трамваі", MC 8 tks., (p) "Ковчег"

1995. "Go home", MC 13 tks., (p) "Ковчег"



1996. "Мая краіна", MC 11 tks., (p) "Ковчег"

1997. "Выбранае", MC 14 tks., (p) unknow

1998. Сборка "Вольныя Танцы", CD 2 tks., (p) БМА

1999. "Novaje Nieba. Лепшае", CD 12 tks., (p) "Ковчег"

1999. "Cepieliny", CD 10 tks., (p) "Ковчег"

**Алесь Камоцкі** нарадзіўся 09.06.58 г. у Барысаве.

Скончыў БДУ (філасофія) у 1986 г.

Лічыць, што працуе ў абранай спецыяльнасці, г. зн. дзе прыйдзецца.

Творчы лёс Алеся Камоцкага разгортваецца ў нас на вачах. У 1980 годзе ўпершыню ўзяў у рукі гітару, хоць ужо тады меў трывалую музычную адукацыю па класу духавых. Саюз з гітарай аказаўся плённым. На студэнцкіх вечарынах ва універсітэце аднакашнікі літаральна адчувалі сябе ашуканымі без ягонай песні і ўзрываліся апладысментамі, зачараваныя яго мяккім голасам, зачараваныя непаўторнай паэзіяй.

Імкліва бяжыць час. Але творчае крэда Камоцкага застаецца нязменным, мяняюцца толькі сродкі яго выяўлення. На думку Камоцкага — шчырыя. Гэтае крэда даволі дакладна сфармулявана ў адной з яго песняў на верш Ларысы Геніюш:



*На роднай зямельцы*
*ўсе мы ня госці —*
*Усе мы чыесьці,*
*усе мы кагосьці.*
*І хоць спарахнелі*
*дзядоў нашых косці,*
*У нашай натуры*
*ёсць іхняе штосьці.*

Вось у гэтым, бадай, увесь Камоцкі. Без тонаў халоднай апаратуры, аднымі сваімі душэўнымі мелодыямі і гарачым словам ён здольны растапіць душу слухача, знайсці шлях да глыбіні чалавечай душы і свядомасці, разгарнуць перад ёй вытокі, каб душа гэтая адчула сябе дачкой сваёй Бацькаўшчыны.

*Падборку падрыхтавала Ірына Марачкіна.*





# ЛЕТАПІС ТАВАРЫСТВА

*Падрыхтавала Ірына Марачкіна*

*(Працяг. Пачатак у папярэднім нумары.)*

**1994 год.**

**Чэрвень.**

Кіраўніцтва ТБМ Віленскага краю сустрэлася з паслом Рэспублікі Беларусь сп. Яўгенам Вайтовічам па пытанні адраджэння беларушчыны ў Віленскім краі.

**6 ліпеня.**

Маскоўскія беларусы звярнуліся да міністра замежных спраў Беларусі сп. П. К. Краўчанкі з просьбай абараніць правы беларускамоўных землякоў, што жывуць у Маскве ("Наша слова" № 27, 1994 г.).

**9 ліпеня.**

ТБМ Віленскага краю наладзіла свята, прысвечанае Міжнароднаму году сям'і. Яно адбылося ў засценку Вашунава Докшыцкага раёна. Падчас святкавання быў адкрыты гісторыка-этнаграфічны музей.

**20 ліпеня.**

Міністэрства адукацыі выказала падзяку Аргкамітэту першай нацыянальнай канферэнцыі па праблемах беларускай навуковай тэрміналогіі за клопат і руплівыя адносіны да нацыянальна-культурнага Адраджэння Бацькаўшчыны і запэўніла, што будзе ствараць неабходныя ўмовы дзеля пераводу ВНУ Беларусі на дзяржаўную мову выкладання ў адпаведнасці з тэрмінамі, вызначанымі Законам аб мовах і іншымі дакументамі ("Наша слова" № 29, 20 ліпеня 1994 г.).

**Ліпень.**

Праведзены вынікі конкурсу "Наш гонар, наш боль" на лепшае сачыненне да 50-годдзя вызвалення Беларусі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. З 73-х сачыненняў 22 прызнаныя лепшымі.

Выйшла ў свет выданне ТБМ "100 пытанняў і адказаў з гісторыі Беларусі" (складальнікі Іван Саверчанка, Зміцер Санько, ілюстрацыі Яўгена Куліка).

**26 верасня.**

На пашыраным паседжанні сакратарыята ТБМ было абмеркавана пытанне "Аб далейшай рабоце арганізацый ТБМ па ажыццяўленні статутнай дзейнасці".

**12 кастрычніка.**

Адбылася канферэнцыя па стварэнні Гомельскай абласной арганізацыі. Старшынём абраны Анатоль Бароўскі.

Прыняты зварот да прэзідэнта Рэспублікі Беларусь з патрабаваннем спыніць шальмаванне дзяржаўнай мовы і беларускіх сімвалаў.

**17-21 кастрычніка.**

Бялыніцкая цэнтральная бібліятэка разам з сябрамі раённага аддзялення ТБМ правялі тыдзень беларускай культуры.

**4 лістапада.**

Рада ТБМ Савецкага раёна Мінска прыняла зварот да Міністэрства адукацыі і навукі Рэспублікі Беларусь "Беларусы і сёння не маюць магчымасці атрымліваць адукацыю ў ВНУ на роднай мове".

**18 лістапада.**

У Доме літаратара адбылося паседжанне Рэспубліканскай рады, на якім абмяркоўваліся пытанні:

- ТБМ і дзяржаўная моўная палітыка,
- Аб задачах ТБМ у перыяд падрыхтоўкі да выбараў у Вярхоўны Савет і органы мясцовага самакіравання.

Прыняты:

- зварот да грамадзян Беларусі "Не задушыць імкненне беларусаў стаць сапраўднымі гаспадарамі на сваёй зямлі!"

**23-24 лістапада.**

Менская гарадская рада ТБМ брала ўдзел у арганізацыі і правядзенні Усебеларускай навукова-практычнай студэнцкай канферэнцыі "Роля і месца студэнцтва ў нацыянальна-культурным будаўніцтве на Беларусі".

Прыняты зварот да студэнцтва Беларусі.

**Лістапад.**

Сябры заводскай суполкі ТБМ накіравалі кіраўніцтву Менскага аўтазавода зварот з прычыны таго, што на прадпрыемстве прыпынілася работа па стварэнні беларускамоўнага асяроддзя.

**15 снежня.**

Створаны Каардынацыйны грамадскі камітэт у абарону беларускай мовы.

ТБМ разам з іншымі 10-цю грамадскімі арганізацыямі выступіла адным з яго ініцыятараў і сузаснавальнікам.

**23 снежня.**

Менская гарадская рада ТБМ арганізавала і правяла ў канферэнцзале Дома літаратара "круглы стол" "Беларуская школа на шляху адраджэння".

Прыняты зварот да міністра адукацыі Васіля Стражава "Дзвюхмоўе разбурае дзіцячую псіхіку" з заклікам выконваць законы Рэспублікі Беларусь, трымацца дзяржаўнай пазіцыі, а таксама Ухвала "круглага стала".

**1995 год.**

**11 студзеня.**

Сакратарыят ТБМ праз газету "Наша слова" звярнуўся да ўсіх камерцыйных структур, фірм, сумесных прадпрыемстваў, банкаў з просьбай дапамагчы ў набыцці для рэдакцыі настольнай выдавецкай сістэмы.

**25 студзеня.**

"Наша слова" (№ 4) паведамляе, што ў "Народнай газеце" змешчаны калектыўны ліст грамадзян Кастрычніцкага раёна Менска, сяброў ТБМ (усяго 55 подпісаў), у якім яны патрабуюць ад Прэзідэнта спыніць знявагу роднага слова і дыскрымінацыю беларускамоўнага насельніцтва.

**27 студзеня.**

Менская гарадская рада ТБМ сумесна з грамадска-культурным клубам "Спадчына" ў Доме настаўніка правялі ўрачыстую вечарыну, прысвечаную 5-годдзю прыняцця Закона аб мовах, дзе прагучаў вельмі змястоўны і цікавы даклад доктара гістарычных навук Леаніда Лыча.

**31 студзеня.**

У сталічным Доме літаратара ТБМ правяло мерапрыемства пад назвай "Чаго Вам хочацца, панове?", прымеркаванае да 5-х угодкаў з дня прыняцця Вярхоўным Саветам Закона аб мовах. Спачатку ў канферэнц-зале адбыўся "круглы стол", у якім бралі ўдзел кіраўнікі грамадскіх арганізацый і руху, рэктары ВНУ, актывісты ТБМ з розных рэгіёнаў, прадстаўнікі Мінадукацыі, журналісты. Па выніках прынятая адмысловая заява. Другая частка імпрэзы адбывалася ў вялікай зале Дома літаратара, дзе працягвалася размова аб роднай мове, адбыўся канцэрт, узнагароджаны актывісты ТБМ. Беларускае тэлебачанне больш за гадзіну вяло трансляцыю з глядзельнай залы ў жывым эфіры.

**Студзень.**

Жлобінская раённая арганізацыя ТБМ разам з цэнтральнай бібліятэкай правялі літаратурную вечарыну, прысвечаную 90-годдзю з дня нараджэння пісьменніка, журналіста, ураджэнца Жлобіншчыны Міхася Чавускага.

Каардынацыйны камітэт па абароне беларускай мовы, у склад якога ўваходзіць ТБМ і яшчэ 19 грамадскіх арганізацый, звярнуўся да Вучонай Рады Белдзяржуніверсітэта і Мінадукацыі і навукі Беларусі з патрабаваннем з 1 верасня 1995 года перавесці БДУ цалкам на беларускую мову навучання. Зварот мае назоў "Закон абавязковы для ўсіх".

**Студзень** ("Наша слова" № 1).

У Менску ў Доме літаратара адбыўся "круглы стол" па праблеме стварэння нацыянальнай школы, які арганізавала і правяла Менская гарадская рада ТБМ імя Ф. Скарыны сумесна з гарадскім упраўленнем народнай адукацыі.

**Студзень** ("Наша слова" № 1).

Бацькоўскі камітэт беларускамоўных школ і класаў г. Менска, які ўзначальвае сябра ТБМ Алесь Шамак, збірае подпісы грамадзян у падтрымку выкладання ў ВНУ на беларускай мове. Сабрана каля 1000 подпісаў. Палова з іх даслана на імя прэзідэнта.

**16 лютага.**

Грамадскі Каардынацыйны Камітэт абароны беларускай мовы прыняў заяву, у якой адзначаецца: "Мы вымушаныя звярнуцца да Генеральнага пракурора Рэспублікі Беларусь з просьбай разгледзець пытанне аб адказнасці сп. Лукашэнкі за знявагу беларускай мовы ў адпаведнасці з заканадаўствам".

Жлобінскай раённая рада ТБМ імя Ф. Скарыны і мясцовыя арганізацыі БСДГ, БНФ, аб'яднаных дэмакратаў і нацдэмаў прынялі заяву да грамадскасці ў абарону роднай мовы.

Падведзены вынікі завочнай краязнаўчай канферэнцыі "Мой родны кут", якую ладзіла Бялыніцкая рада ТБМ сумесна з раённым аддзелам адукацыі.

Жлобінская раённая арганізацыя ТБМ правяла вечарыну, прысвечаную 5-ым угодкам свайго ўтварэння.

Суполка ТБМ Латвіі "Прамень" пачала выдаваць сваю газету з аднайменнай назвай.

**9 сакавіка.**

На паседжанні Рэспубліканскай рады абмеркавана новая рэдакцыя Статута ТБМ.

**12 сакавіка.**

Грамадскі Каардынацыйны Камітэт абароны беларускай мовы звярнуўся да Прадстаўніцтва Арганізацыі Аб'яднаных Нацый у Рэспубліцы Беларусь, каб праінфармаваць пра дыскрымінацыю беларусаў па нацыянальнай прыкмеце, пра парушэнне чалавечых правоў і правоў беларускіх дзяцей.

**Сакавік.**

Споўнілася 5 гадоў ад часу заснавання "Нашага слова".

Маладзечанская рада ТБМ прымае зварот да грамадзян Беларусі "Спыніць наступ антыбеларускіх сіл".

*(Працяг у наступным нумары.)*

## Віншуем сяброў ТБМ, якія нарадзіліся ў кастрычніку

Акаловіч Леанід Аляксандравіч
Алейнік Юры Леанідавіч
Архуцік Мікалай
Аўдошчанка Валянціна
Барташэвіч Антаніна
Бобрык Алена Валянцінаўна
Брыцько Аляксей
Бубала Антон
Буйніцкая Марына
Булавацкі Міхась Пятровіч
Бялецкі Віктар Пятровіч
Валуненка Ірына Іванаўна
Ваўкавыцкая Таццяна
Вератынскі Кірыл Віктаравіч
Восіпава Аляксандра
Гіль Міхаіл Нікадзімавіч
Грышчук Ганна Рыгораўна
Даржынкевіч Генрых Феліксавіч
Дзедушкова Алена
Дзенісевіч Лідзія
Дзмітрыенка Анатоль Іванавіч
Долбік Ларыса Рыгораўна
Дудар Таццяна Аляксандраўна
Думанская Ганна Рыгораўна
Ермаковіч Леанід Іванавіч
Ермаловіч Васіль Васільевіч
Жагалава Тарэза Міхайлаўна
Жаўток Уладзімір
Зянковіч Юрась
Кавалевіч Зінаіда Мікалаеўна
Кавецкая Наталля Уладзіміраўна
Казак Валянціна
Казлоў Алег Яўгенавіч
Камкоў Пятро
Каратай Уладзімір Арсеньевіч
Караткоў Мікалай
Касцючэнка Ірына
Качарагіна Людміла Аляксееўна
Крой Аляксандр Ільіч
Крупіца Валянціна
Крывецкая Ірына Сцяпанаўна
Кулеш Алена
Кутас Тамара
Кушнер Васіль Федаравіч
Лебедзеў Уладзімір Ануфрыевіч
Лебядзевіч Д.М.
Лепешаў Іван Якаўлевіч
Ліс Дар'я Алегаўна
Лучко Валянцін Станіслававіч
Люкевіч Уладзімір Паўлавіч
Лявонава Галіна
Ляўчук Валерый Аляксеевіч
Мазырка Аляксандр
Малец Таццяна
Малышка Іпаліт Міхайлавіч
Малько Вячаслаў Аляксандравіч
Мальцава Ірына
Масяйчук Аляксандр
Матысюк Вера
Мінаў Леанід Уладзіміравіч
Міцкевіч Уладзімір Валянцінавіч
Мішчанчук Мікалай Іванавіч
Навумчык Іосіф Адамавіч
Несцярук Валерый Фёдаравіч
Палсцюк Валеры Віктаравіч
Панамарова Лізавета Сяргееўна
Пераходзька Святлана Сяргееўна
Піліпенка Алена
Пракаповіч Ілля Мікалаевіч
Праневіч Генадзь Мікалаевіч
Пунько Вольга Язэпаўна
Пухоўскі Юрый Мікалаевіч
Пярова Маргарыта Сяргееўна
Пярова Наталля Юр'еўна
Раманцоў Зміцер Уладзіміравіч
Савацееў Кім Сяргеевіч
Сагановіч Яніна Генадзеўна
Сёмкіна Вольга Віктараўна
Семянчук Генадзь
Сікора Алег Георгіевіч
Смашная Марына Уладзіміраўна
Спосабаў Іван Іванавіч
Станеўская Людміла
Станкевіч Георгій
Стральцоў Алесь Уладзіміравіч
Суднік Святлана Георгіеўна
Сухаверхі Андрэй Сямёнавіч
Сухарэвіч Віталь Пятровіч
Сухоцкі Андрэй Аляксеевіч
Сцежкін Кірыла Аляксандравіч
Сямёнава Анастасія Васільеўна
Сямёнаў Віталь
Тарасаў Кастусь Іванавіч
Угрын Аляксандр Сяргеевіч
Фалейчык Алесь
Філіповіч Дзіяна Леанідаўна
Хадачок Міхаіл
Хадневіч Цімафей
Хархардзін Уладзіслаў
Цішкевіч Юлія Іванаўна
Чайкоўскі Павел Іванавіч
Чмарава Марына
Шаршнёва Наталля Анатольеўна
Шохан Вольга
Шуй Вольга Васільеўна
Шыдлоўскі Раман Яўгенавіч
Яканюк Ала Валянцінаўна
Яроменка Аляксандр Леанідавіч





Ларыса Горцава

# Рубяжы беларускасці Артура Вольскага

Я веру ў тое, што кожнаму чалавеку наканавана ў жыцці тое, што наканавана... А як інакш можна растлумачыць, што мы з табой сустрэліся...

Ён жыў на гэтай зямлі ўжо васемнаццаць год... а мяне яшчэ не было наогул... Ён ужо захапляўся дзяўчатамі, а я толькі павінна была нарадзіцца... І ўсё ж-такі...

Я помню нашу першую сустрэчу...



Ён (я не памятаю) быў тады дырэктарам, ці загадчыкам літчасткі... Я толькі пасля інстытута прыйшла ў тэатр...

Мы сустрэліся выпадкова на вуліцы Свярдлова перад вакзалам. Ён на адным баку вуліцы, а я на супрацьлеглым... І кірункі нашыя ў розныя бакі. Лёгкі, усмешлівы, інтэлігентны... Ён нешта крычаў мне са свайго боку, я нешта ў адказ, але тады падумала: "Я хацела б быць разам з ім, я буду яго жонкай."

Але да гэтага было так далёка... Яшчэ цэлых сем год... Ён быў не свабодны, і я не вольная... Але... Думаю, гэта лёс! І з 72 года мы былі разам трыццаць год. Не расставаліся, нават у адпачынак заўсёды ездзілі толькі разам і ніколі паасобку. Актрыса і паэт. І хаця некаторыя прадракалі Артуру, што ён зноў памыліўся, наш саюз быў добрым, доўгім (30 год) і шчаслівым. Мы былі тыя дзве палавінкі, якія дапаўнялі адзін адно. І ўсё яго вершы і кнігі з 1972 года былі надрукаваныя мной на машынцы. І кожны радок ці варыянты верша ён чытаў першай мне і пытаўся, які радок мне падабаецца больш. І вельмі ўдзячная яму за тыя ролі, якія ён напісаў спецыяльна для мяне, Алаізы Пашкевіч (Цёткі), і я сыграла гэтую ролю на тэлебачанні побач са знакамітымі актрысамі, Стэфаніяй Станютай, Паўлам Дубашынскім, Ткачонкам, Шэлеставым — усе народныя, заслужаныя... І яшчэ "Водар папарацi" напісаў адразу чатыры ролі ў адной п'есе. Увогуле, мы многа выступалі з ім у школах, дзіцячых інтарнатах. Побач з ім былі цудоўныя вядомыя разумныя людзі: Барадулін, Быкаў, Гілевіч, Вярцінскі і многія, многія іншыя. Вядомыя рэжысёры: Л. Хейфіц, Б. Эрын, М. Шыйко, У. Малашкін. І я вучылася, слухала, слухала... А як вядома, з кім павядзешся... Я вучылася шмат чаму ў яго, а ён нешта браў ад мяне.



Знаёміць са сваімі бацькамі ён павёз мяне ў вобразе Снягуркі. Тады ў тэатры ігралі па тры спектаклі перад Новым Годам, не было калі пераапрануцца... І маці простая местачковая жанчына і знакаміты пісьменнік бацька, яго выбар ўхвалілі і заўсёды ставіліся да мяне вельмі добра. І я ўдзячна ім за гэта. Мяккі, добры, спакойны, разумны, інтэлігентны, разважлівы... і колькі яшчэ эпітэтаў можна напісаць пра яго.

А як цудоўна, як натуральна і мілагучна гучала ў яго наша родная мова. Як ён змагаўся за яе. Колькі ездзіў ён у школы, у чарнобыльскія раёны. Ён вёў беларускую літаратуру ў школе, вёў гурток маладых паэтаў у доме творчасці моладзі Фрунзенскага раёна. навошта гэта табе. Пашануй сябе. Гэта так далёка ехаць. Адпачні, — гаварыла я, — бо ён даўно ўжо быў стомлены, -- ты маеш права на адпачынак. Але ён ведаў дзеля чаго...

Ён выгадваў цудоўных паэтак (я думаю мы яшчэ пачуем іх імёны на літаратурны Алімпе): Таццяна Сівец, Ганна Анацка, Таццяна Зубелік. А яго вучні ў школе? Сапраўдныя (імёны не называю наўмысна) патрыёты, іх хвалюе лёс Радзімы, лёс роднай мовы, яны сапраўдныя змагары.





І гэтым ён змагаўся за незалежнасць мовы і пасля выступлення на беларускай мове ў школе быў збіты так званымі хуліганамі... Звеоскі... маглі і забіць, але Бог падарыў яму яшчэ 4 гады, ён выпусціў апошні зборнік вершаў "След завірухі", ён быў адным са стваральнікаў беларускай пратэстанцкай царквы... Ён паспеў убачыць сваю цудоўную ўнучку Адэльку, напісаць пра яе і для яе вершы і стварыць падручнікі на роднай мове для малодшых класаў "Беларусачка", "Буслянка 1", "Буслянка 2", "Буслянка 3". паспеў зрабіць пераклад п'есы "Песні ваўка" ў вершах і іншых п'ес.

Канешне, мы думалі, што ён, калі не як маці да 94, то хоць як бацька (яны ж доўгажыхары) дацягне да 88 год. Мы спадзяваліся... Ну яшчэ хоць трошкі. Але... Стрэс! Моцны... Урачы так і спыталіся ў мяне: "У яго быў стрэс? Гэта канец!" (Анкалогія) У мяне падкасіліся калені. Вы ж артыстка! Выходзьце з кабінета, усміхайцеся... А ён у калідоры, і я выходжу і ўсміхаюся... Усё будзе добра...

Ён паміраў мужна і спакойна.

Да апошняй мяжы я была з ім, ён памёр на маіх руках і я закрыла яго блакітныя вочы.

На гэтым апошнім рубяжы (у яго ёсць такі верш "Рубяжы". "Рубеж без бою пакідалі". Мы развіталіся... Назаўсёды... А можа і не? "Мы яшчэ сустрэнемся", — здаецца так спявала я некалі гэтую песню на сваёй вечарыне ў Доме літаратара... Як даўно гэта было...

### Вершы з апошняга зборніка "След завірухі"

*Ларысе.*

... А раптам у сілу ўбярэцца пачвара
ізноў залютуе на Белай Русі?
Як выпадзе ейнаю стаць мне ахвярай,
не плач.
У яе за мяне не прасі.
Пайду на Галгофу.
І веру — не згіну,
а зернеткам лягу ў святое сяўбе.
Адно б я хацеў —
як Хрыстос Магдаліну —
апошнім паглядам суцешыць цябе.

А што прасіць у Пана Бога
ў шчасці, ў радасці, ў журбе?
Скажу па-шчырасці замнога
не папрашу дзеля сябе.
А што яшчэ? Майму народу —
здзяйсненняў светлых, добрых спраў,
каб Бог яму ва ўзнагароду
ўсе правіны дараваў.



*(Здымкі з сямейнага архіву Вольскіх)*

Людміла Дзіцэвіч

# Ірландскі дзённік

*(Працяг. Пачатак у папярэдніх нумарах.)*

**2.07.04. Пятніца.**

Вось ужо другі тыдзень, як мы тут. Праляцеў, як імгненне. Напэўна таму, што я цікаўлюся кожнай драбязінкай ірландскага жыцця. Запісваю ўсе кошты. Занатоўваю ўсе традыцыі.

Была на могілках. Каля могілак — стары касцёл, які ніхто не даглядае. І ўвогуле, у маленькіх гарадах старажытныя месцы закінутыя, недагледжаныя, зарослыя травой. У вялікіх гарадах сітуацыя іншая.

Могілкі ў Кілбэгэне складаюцца з дзвюх частак. Першая — старая. Тут пахаванне пачалося ў 1830 годзе. Усе помнікі — у выглядзе кельцкага крыжа. Другая частка — сучасная. Пахаванні тут з 1959 г. Магілы шырокія 3,5 х 4 м. Просты кавалак зямлі, абгароджаны цэментным выступам у 20 см вышынёй. Сучасныя помнікі нізкія. На іх напісаныя імя, прозвішча памерлага, потым дапісваюць, напрыклад, яго жонка (імя), яго сын (імя), яго дачка (імя) і г. д. У адным месцы хаваюць усю сям'ю. На помніку пішуць у які дзень, месяц, год памёр і ў якім узросце. На магіле насыпаная жарства, якая можа быць рознакаляровай: зялёнай, жоўтай, чырвонай. Трохі кветак, часам жывых, часам штучных.

Само пахаванне адбываецца вельмі цікава. Калі хто-небудзь памёр, то вечарам наступнага для ўсё жадальнікі збіраюцца ў доме памерлага. Ідзе адпяванне ксяндзом, і ўсе моляцца. Потым труну выносяць з хаты, ставяць у катафалак. Гэта прыгожы легкавы аўтамабіль чорнага колеру з цудоўнымі з жывых кветак ікебанамі. Усе едуць у касцёл. Моляцца там, затым усе, хто ў касцёле, ідуць ланцужком да родных памерлага і выказваюць ім сваё спачуванне. Труна з целам памерлага стаіць у касцёле ўсю ноч. Назаўтра раніцай усе збіраюцца зноў у храме для адпявання. Спяваюць шмат песень і, што асабліва цікава, расказваюць пра памерлага, які ён быў, што ён любіў: есці, піць, гуляць, чытаць; дзе любіў бываць, які быў сын, бацька, жонка, муж і т. д. Карацей, усе, што толькі можна. Дзеці і ўнукі чытаюць казанні божыя. Потым блізкія паказваюць падарункі, якія калісьці даравалі ім нябожчык.На магіле, як і ў нас, пакідаюць кветкі. Помнік ставяць праз год.

Падчас пахавання плачуць няшмат, адносяцца да адыходу ў іншы свет нашмат спакайней. У касцёле могуць расказваць цікавыя гісторыі пра памерлага — і тады ўсе людзі смяюцца. На могілках таксама могуць усміхацца, калі хаваюць. Так яны паказваюць сваё разуменне пераходу ў другі свет, калі душа вяртаецца дадому і мае асалоду ад гэтага.

Я мела магчымасць назіраць некалькі пахаванняў, у асноўным сталых людзей.

Вечарам ездзіла на пахаванне Моны, маці Рэджыны. У Рэджыны, настаўніцы, жывуць Люда і Валера са Станькаўскай школы-інтарната. Рэджына запрашае дзяцей вось ужо пяты раз. Дзеці спачатку баяліся пахавання, але потым пабачылі, што людзі успрымаюць гэта не супертрагічна, як у нас. Ды і пажыла Мона добра, 85 гадоў. Пахаванне было прыгожым, у касцёле людзей было недзе каля 500. Брат Рэджыны (сын Моны) — святар, пагэтаму многія людзі ведаюць гэтую сям'ю. Усіх святароў было каля 10, сябры сям'і. Кожны падышоў да Рэджыны, паціснуў руку, выказаў спачуванне. Я пакінула ў спецыяльнай кнізе запіс са спачуваннем.

**03.07.04. Субота.**

Назаўтра зноў паехалі да касцёла — пахаванне доўжыцца два дні. Адпяванне было даўжэйшым. Прамаўлялі святары, блізкія, сябры. Паказвалі, што Мона падаравала каму пры жыцці. Нават Люда паказвала свой падаруначак ад Моны. Потым святар малады распавёў пра жыццё Моны. Бабуля пражыла цікавае жыццё: шмат вандравала, шмат працавала, мела шмат сяброў.Любіла пасядзець у пабе, выпіць піва. Святар расказваў розныя цікавыя, жартаўлівыя гісторыі пра яе жыццё — і людзі ў касцёле смяяліся. Атмасфера была незвычайная — лёгкая, ненапружаная, светлая, у нечым радасна-тужлівая, якая вельмі хораша ўплывае на людзей. Кожны задумваецца пра найвышэйшае.



*Пасля пахавальнай імшы.*

Пахавалі бабулю каля мужа, у адной магілцы.

*(Працяг у наступным нумары.)*

*Станіслаў Суднік*

# З БЕЛАРУСКАЙ МОВАЙ ПА ЖЫЦЦІ

*(Працяг. Пачатак у папярэдніх нумарах.)*

На Урале кольсць салдатаў і сяржантаў у батарэі была невялікай, таму там праца вялася з кожным індывідуальна. У Казахстане я пачаў камандаваць даволі вялікімі падраздзеламі. У розны час у падраздзеле ўзнікалі разныя этнічныя групоўкі: украінская, узбекская, літоўская, казахская, чачэнская, уральская.

Я прыняў падраздзел, дзе каля паловы салдатаў было з Украіны. Гэта было абсалютна нехарактэрна для нашых войскаў. Рускіх, беларусаў і украінцаў бралі звычайна ў больш сур'ёзныя віды Ўзброеных Сілаў: Ракетныя войскі стратэгічнага прызначэння, Вайскова-марскі флот, дэсант. А тут украінскі набор трапіў у Супрацьпаветраную абарону. Хлопцы ўсе былі выключна талковыя, таленавітыя, дружныя, Адзін з іх Слава Лычак з Кіева у будучым стане першым наборшчыкам газеты "Рокаш". Аднойчы украінцы выкінулі нумар якраз паводле вядомага фільма з удзелам украінскага артыста Быкава, дзе падраздзел спявае песню:

*"Аты-баты, шлі солдаты,*
*Аты-баты, на войну..."*

У частцы быў абвешчаны конкурс на лепшую шыхтовую песню. Украінцы прапанавалі спець "Распрагайце, хлопцы, коней..." Песня яўна не шыхтовая, але ж талент нідзе не падзенеш. Удзяўбці ўкраінскі тэкст казахам і узбекам было не цяжка, цяжэй расейскамоўным афіцэрам. І вось конкурс. Песня атрымалася. Сур'ёзны палкоўнік з журы сказаў: "Эх, даў бы я ім першае месца, але ж ні аднаго слова не разабраў, што яны спявалі?" Праўда ніхто не адважыўся сказаць па прыкладу фільма, што гэта "По долинам и по взгорьям".

Далі другое месца.

Наступнай моцнай групоўкай была літоўская. Яна была не шматлікая, але гэта былі сяржанты. Тры літоўцы: Чакаўскас, Мікшас, Жамайціс і паляк з Літвы Радзевіч.

Я расставіў іх на ўсе ключавыя пасады. Чакаўскас, кандытат у майстры спорту па боксу, быў прызначаны старшыной, астатнія камандзірамі аддзяленняў. У падраздзеле, дзе асноўная маса шарагоўцаў была з Сярэдняй Азіі і Каўказа, наступіў літоўскі "орднунг". Гэта быў той рэдкі выпадак, калі літоўцы ў Савецкай Арміі служылі за сумленне. Усе яны пабывалі ў адпачынку. Радзевіч прывёз мне кучу польскіх кніг, у тым ліку і "Крыжакоў" Сянкевіча. Чакаўскас вярнуўся ўжо з "Пагоняй" ("Віцісам"). Прымацаваў на месца камсамольскага значка. А паколькі быў старшыной, то пры шыхтаванні часта аказваўся ў першай шарэнзе. Намеснік начальніка штаба падпалкоўнік Дымчынскі правярае знешні выгляд падраздзялення. Убачыў "Пагоню".

-А гэта што такое?

-Камсамольскі значок, таварыш палкоўнік.

А салдаты збоку:

-Так, так, таварыш палкоўнік гэта ў іх зараз камсамольскія значкі такія.

-Прыдумаюць жа. Зараз у кожнага будзе свой камсамольскі значок, - прабурчаў Дымчынскі і падаўся далей.

У Літве ва ўсю ішлі нацыянальна-адраджэнцкія працэсы. На літоўцаў паглядалі скоса, але я ім цалкам давяраў, і яны мяне ні разу не падвялі. Чэсна даслужылі, чэсна звольніліся.

Галаўным болем усіх камандзіраў Савецкай Арміі былі чачэнцы і прымыкаўшыя да іх інгушы. Адзін чачэнец у падраздзяленні – гэта нармальна, два – ужо многа. Каб прымусіць іх служыць, трэба было знаць усе тонкасці іх нацыянальнага характару.

Першы раз у падраздзел далі двух чачэнцаў. Аднаго з Казахстана, другога з Чачні. Прозвішча апошняга - Асуханаў. Асуханаў меў неблагі характар і стараўся служыць. За ім цягнуўся і другі чачэнец.

Я даў Асуханаву адпачынак, што для чачэнцаў было вялікай рэдкасцю.

Пасля гэтага там у Чачні мяне пачалі лічыць амаль сваяком. Сястра яго з Грознага пачала пісаць лісты, некалькі разоў прысылала пасылкі. Абяцала, калі брат будзе жаніцца, абавязкова паклікаць на вяселле.

Калі Асуханаў звальняўся, то на нешта яму не хапала грошай, і ён папрасіў у мяне 50 рублёў. Тады гэта было не мала. Я і перад гэтым сяды-тады пазычаў грошы салдатам. Ніхто ніколі іх не вяртаў. Тут я таксама махнуў рукой. Але, як ні дзіўна, чачэнец грошы прыслаў. Вось і ўся розніца паміж іхняй нацыяй і іншымі.

Другая чачэнская група была ў складзе 4-х чалавек: дваюрадныя браты Джамалдзінавы з Чачні, Хуртыгаў з Дагестана і ігуш Муртазаеў.

Гэтыя больш менш служылі пакуль служылі сяржанты літоўцы, а ў суседнім падраздзеле служыў чачэнскі князь Мірзоеў. Ён загадаў служыць і служылі, хаця калі прайходзіў дзень, і чачэнцы нічога не ўтварылі, то можна было лічыць за шчасце. Іх вельмі цяжка было ўпісаць у агульныя нормы. Яны катэгарычна не прызнавалі абавязкі па прыборцы памяшкання. Будзе рабіць, што хочаш, капаць, бяліць, каменне цягаць, але не будзе мыць падлогу, ці падмятаць.

Чачэнцы ніколі не выходзілі на рынг ці на дыван адзін супраць другога, як сёння на міжнародных спаборніцтвах арабы не выходзяць супраць яўрэяў, але тут матывацыя была зусім іншая.

На першынстве часткі па боксу, дзе мой аддзел павінен быў заняць 1-е месца, у адной з вагавых катэгорый малодшы сяржант Джамалдзінаў у фінале павінен быў выйсці на рынг супраць старэйшага за яго чачэнца. Паводле іхніх законаў Джамалдзінаў павінен быў зняцца. Але ён быў яшчэ "малады", і я ды іншыя афіцэры фактычна сілай выпіхнулі яго на рынг. Ну і што? Зняўся яго супрацiўнік. Той быў "старaслужачы", і яго не змаглі прымусіць.

Выйграў сваю вагавую катэгорыю і Хуртыгаў. Таго прывялі на рынг з гаўптвахты пад аўтаматам. Умова простая: "Перамагаеш – вызваляю, прайграеш – яшчэ трое сутак".

На такіх умовах і для Хуртыгава супраціўніка не знайшлося. Давялося вызваляць. Прада, не на доўга. Хуртыгаў быў любімым салдатам начальніка палітаддзела. Той саджаў бравага чачэнца проста пры кожнай сустрэчы і аж на сцену лез, калі бачыў Хуртыгава з аўтаматам на пасту і пасадзіць не мог. Адкуль у іх такая "любоў" ніхто не ведаў, але калі Хуртыгаву трэба было ўлізнуць ад службы, то ён выходзіў на дарогу, расшпільваў падкаўнерык і чакаў начальніка палітаддзела. Той яго без слоў хапаў і вёў на гаўптвахту, якая была тут жа поблізу, і Хуртыгаў сутак трое "паліраваў" нары, замест таго, каб "службу цягнуць".

*(Працяг у наступным нумары.)*

**Рэдактар Станіслаў Суднік**

***Заснавальнік:***
ТБМ імя Францішка Скарыны.
***Пасведчанне аб рэгістрацыі:***
№ 83 ад 28 чэрвеня 1996 г.
***Адрас рэдакцыі:***
220034, г. Менск, вул. Румянцава, 13.
***Адрас для паштовых адпраўленняў:***
231282, г. Ліда-2, п/с 7.
***E-mail:*** naszaslowa@tut.by
**http://tbm.org.by/ns/**



***Аўтары цалкам адказныя за падбор і дакладнасць прыведзенай інфармацыі***

Газета надрукавана ў Лідскай друкарні.
231300, г.Ліда, вул. Ленінская, 23.
Газета падпісана да друку 27. 09. 2004 г. Замова № 1741.
Аб'ём 2 друкаваныя аркушы. Наклад 2500 асобнікаў.
***Падпісны індэкс:*** 63865.
***Кошт падпіскі:*** 1 мес.- 1280 руб., 3 мес.- 3840руб.
***Кошт у розніцу:*** 290 руб. (у Менску - 310 руб.)